*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№ 468 • Сакавік-Красавік 2000 г.**
Год выд. 50

**BIELARUS /** Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A.

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
прэзыдыюм

Атава, Канада, Сакавік 2000 г.

Дарагія Суродзічы,

Зноў надыходзіць нашае вялікае нацыянальнае сьвята, угодкі таго слаўнага дня, 25 Сакавіка 1918 году, калі беларускі народ, пасьля доўгага зьняволеньня, абвесьціў сьвету, што ён, так як і іншыя народы, сам хоча вырашаць свой лёс ды быць гаспадаром у сваім доме.

Гэта сталася 82 гады таму, зь якіх 75 былі, магчыма, найбольш страшнымі ў жыцьці нашага народу таму, што мы не здолелі тады абараніць нашую маладую дзяржаву ад найбольш дзікага ў гісторыі чалавецтва надыходзячага бальшавіцкага рэжыму.

Уключыўшы нас у свой Саюз, пераконваючы нас, што мы быццам-бы суверэнная рэспубліка, нас чужакі нішчылі, зьдзекаваліся над нашай гісторыяй, нашай мовай, вывозілі ў канцлягеры Сібіру, каб мы на іх працавалі. Змушалі нашу моладзь аддаваць жыцьцё на карысьць чужой імпэрыі. Угаворвалі нас, і адначасна ўгаворвалі ўвесь сьвет, што мы ня здольныя даць сабе рады, што нам нібы патрэбны «старэйшы брат». А паколькі народ наш быў поўнасьцю ізаляваны ад рэшты сьвету ды ня ведаў, як жывуць іншыя народы, паверыў акупантам. Паверылі ім таксама і іншыя краіны, бо-ж толькі такую інфармацыю атрымоўвалі ад маскоўскіх прапагандыстаў.

У 1991 годзе Бог нам даў зноў волю. Без праліваньня крыві. Даў як падарунак, як той Біблейскі талент, думаючы відаць, што мы, народ разумны і працавіты, будзем ведаць, як яго памножыць. Нажаль, ня сталася яно так з дапамогай «старэйшага брата», да ўлады прыйшоў правадыр, адзінай мэтай якога было — загнаць народ зноў у няволю.

Дарагія мае суродзічы, нашая бацькаўшчына знаходзіцца цяпер у вялікай небясьпецы. І дзеля гэтага нам усім трэба ўсьвядаміць сабе, што мы жыццяздольныя, бо ж мы здолелі пераажыць цэлае тысячагодзьдзе, ня гледзячы на ўсе беды. Што мы — народ разумны й працавіты. І таму ня толькі можам сабе даць рады без «апекі» з Усходу, але здольныя здабыць сабе людзкія ўмовы жыцьця, калі нас пакінуць у спакоі. Што наш край у сапраўднасьці не бяднейшы за Данію ці Швайцарыю. А тое, што ён невялікі, у сьвеце цяпер лічыцца плюсам. Данская каралева Маргарыта ў сваёй нядаўнай прэс-канфэрэнцыі ў Лёндане якраз гэтаму заўдзячала дабрабыт Даніі.

Дык зь верай у будучыню ня дайма, дарагія суродзічы, чужаком распараджацца нашай доляй. Нелягальны працэс інтэграцыі яшчэ не закончаны. Яшчэ час затрымаць яго. Але для гэтага трэба, каб усе мы «выйшлі шчыльнымі радамі», трэба паказаць сьвету, што мы жывём і хочам жыць. Прашу кожнага, хто называе сябе беларусам, каб паказаў, што ён годны беларусам звацца. Тыя, што на Бацькаўшчыне, выходзьце на вуліцы, каб сьвет Вас пабачыў. Тыя, што на чужыне, зрабеце ўсё, што ў Вашых сілах, каб зацікавіць сьвет доляй нашага народу. Каб не дайшло да Чачні ў нашай «ціхай і ветлай» Беларусі.

Вітаю Вас з угодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і жадаю Вам, як і заўсёды, дарагія суродзічы, мужнасьці й вытрываласьці ў змаганьні за вольную, незалежную й заможную Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады Беларускай**
**Народнай Рэспублікі**

## ЗАЯВА СТАРШЫНІ ВС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

25 сакавіка 1918 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла «Трэцюю Ўстаўную Грамату», у якой БНР абвяшчалася «незалежнай і свабоднай дзяржавай». З тых часоў для ўсіх сумленных людзей нашай краіны дзень 25 сакавіка зьяўляецца сьвятам — Днём Волі й Незалежнасьці Беларусі. Адзначыць гэты дзень выйшлі людзі многіх населеных пунктаў рэспублікі й сёлета. Яны несьлі нацыянальныя сьцягі, кветкі, лозунгі, на якіх дэкляраваліся заклікі да волі й незалежнасьці сваёй Радзімы, і, як гэта бывае ў такія дні, выказвалі свае патрабаваньні да ўладаў. Сьвяткаваньне жыхарамі Беларусі Дня Волі й Незалежнасьці знайшло шырокую падтрымку сярод нашых суайчыньнікаў і ў шэрагу іншых краін.

Але, на жаль, у самой Беларусі сьвята Дня Волі й Незалежнасьці вылілася ў сапраўдную трагедыю. У адрозьненьне ад сьвяткаваньня Дня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якое прайшло мірна, таму што ўлады далі дазвол на шэсьце й мітынг і са свайго боку не праявілі ніякіх правакацый, на гэты раз было ўсё наадварот. Рэжым паказаў свой сапраўдны твар. Напалохаўшыся шматтысячнай дэманстрацыі жыхароў рэспублікі, грамадзянін Лукашэнка, які пасьля 20 ліпеня 1999 году незаконна ўтрымлівае дзяржаўную ўладу й супраць рэжыму якога ўзбуджана крымінальная справа, даў загад забараніць шэсьце. З самага раньня 25 сакавіка горад напоўніўся тысячамі ўзброеных «да зубоў» людзей, многія зь якіх былі са спэцыяльна падрыхтаванымі сабакамі, на вуліцах і плошчах зьявілася бронетэхніка. Усё гэта нагадала мінчанам карныя гестапаўскія апэрацыі часоў Другой сусьветнай вайны.

З паяўленьнем людзей на вуліцах і плошчах іх пачалі хапаць, не разьбіраючы, хто яны й куды ідуць. Безумоўна, што пры гэткім падыходзе да так званай зачысткі вуліц і плошчаў ад людзей, у спецпрыёмнікі й спецангары АМОНу патрапілі ня толькі сотні мірных жыхароў, але й дэпутаты Сойму Польскай Рэспублікі, дыпламаты й журналісты, у тым ліку й расейскія. Пры затрыманьні дзеяньні спэцслужбаў адзначаліся жорсткасьцю й бязьлітаснасьцю: білі старых, жанчын і дзяцей, разьбівалі рэпарцёрскую [illegible]у й акуляры, нават пагражалі [illegible]сьлёзацечны газ. Больш таго, сёньня сотні людзей чакаюць прысуду.

Усё гэта ня можа ня выклікаць абурэньня ў сэрцы кожнага сумленнага чалавека, бо названымі дзеяньнямі ўладаў зьневажаюцца правы й свабоды беларусаў, дэкляраваныя ім яшчэ ў 1918 годзе. Але разам з тым нельга не адзначыць, што той страх, які апанаваў дыктатарскі крымінальны рэжым, зьяўляецца пачаткам канца яго існаваньня. І набліжаецца той час, калі ўсе злачынцы, якія сёньня аддаюць крымінальныя загады й выконваюць іх, паўстануць перад Сапраўдным Судом Свайго Народу.

*27 сакавіка 2000*

**С. Шарэцкі**

## *ЗАЯВА*
## *БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ» Й ПАРТЫІ БНФ*
## 25 САКАВІКА 2000 ГОДУ – ПРАЦЯГ ЗМАГАРНАГА ЧЫНУ

Як штогод, незалежніцкія сілы Беларусі адзначылі галоўнае сьвята беларускага народу — Дзень Волі 25 Сакавіка — урачыстасьцямі па ўсёй краіне. У 21 горадзе Беларусі адбыліся акцыі ў гонар Дня Волі. У Горадні на сьвяточную дэманстрацыю выйшла 3000 чалавек, ад некалькіх соцень да тысячы — у Берасьці, Салігорску, Слоніме, Маладэчне ды іншых гарадох. Але памкненьні беларускага народу да незалежнасьці выклікаюць шалёную нянавісьць лукашэнкаўскага рэжыму і яго расейскіх гаспадароў. Сёлета 25 Сакавіка ў Менску за незалежнасьць зноў пралілася кроў.

Гарадзкія ўлады, напачатку гатовыя паразумецца з арганізатарамі сьвяточнага шэсьця й мітынгу, урэшце на прамы загад Лукашэнкі насуперак закону забаранілі шэсьце. Яшчэ раз пацьвердзілася, што менчукі ня маюць сваёй гарадзкой улады, а толькі паслухмяную ўзурпатару «вэртыкаль». Гарадзкая міліцыя, якая пачала выпраўляць свой вобраз 15 сакавіка, на гэты раз зноў вымушаная была выконваць брудную работу, хоць асноўныя заплечныя функцыі былі ўскладзеныя на іншыя сілавыя структуры. На задушэньне незалежніцкага сьвяткаваньня былі кінутыя беспрэцэндэнтныя сілы й рэсурсы. На вуліцы Менску былі выведзеныя ўзброеныя жаўнеры нутраных войскаў, панцырная тэхніка, вадамёты, амапаўцы з сабакамі. Гэта не пакідала сумневаў у тым, што Менск акупаваны.

Асаблівую нянавісьць антыбеларускага рэжыму выклікала незалежніцкая пазыцыя БНФ «Адраджэньне». Сядзіба БНФ на вуліцы Варвашэні, 8 была заблякаваная з самае раніцы сіламі АМАПу й нутраных войскаў ды некалькі разоў штурмаваная (у выніку ёсьць параненыя). Усіх, хто ўваходзіў у сядзібу або выходзіў зь яе, тут жа затрымлівалі й вывозілі.

25 сакавіка яшчэ да пачатку акцыі былі беспадстаўна арыштаваныя кіраўнікі й сябры БНФ Віктар Івашкевіч, Сяргей Міхноў, Сяргей Андросаў, Уладзімір Ільлюкевіч, Вадзім Болбас, Алесь Пушкін, Алесь Бондараў, Рыгор Кійко, сябры кіраўніцтва АГП, КХП, БСДП Анатоль Лябедзька, Юрась Беленькі, Алесь Чахольскі, Віталь Малашка, сотні іншых палітычных актывістаў, замежныя журналісты, а нават абароненыя дыпляматычнаю недатыкальнасьцю чалец Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ Крыстафэр Паніко й пасол (дэпутат) польскага Сойму Мар'юш Каміньскі. Журналістаў, дыпламатаў, звычайных грамадзян звозілі ў казармы нутраных войскаў на вул. Маякоўскага, дзе разьмяшчалі ў спартовым комплексе, у казармы на вул. Грушаўскай, у спэцразьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна, а таксама ў раённыя пастарункі міліцыі. Агульная колькасьць затрыманых дасягае 500 чалавек.

Перад шэсьцем і падчас яго нутраныя войскі, узброеныя дубінкамі, балёнамі

*(Працяг на бач 2)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

# Дарагія суродзічы!

Усе сьведамыя беларусы, дзе б яны ні жылі, адчуваюць духоўнае паяднаньне ў сьвяты для нашага народу дзень 25 Сакавіка. Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка мела паўстаць як першая беларуская дэмакратычная дзяржава сучаснага эўрапейскага кшталту, і толькі варожае вонкавае атачэньне не дазволіла Беларусі скарыстаць шанец, дадзены ёй лёсам і мужнасьцю нашых папярэднікаў 82 гады таму.

І сёньня нас вядуць наперад, у новае тысячагодзьдзе, усё тыя-ж ідэалы 25 Сакавіка, бо яны — вечныя, як вечная ды незьнішчальная воля беларускага народу быць самім сабой, трымацца Мовы й Сьцяга, не аддаць на глум акупантам сваю незалежную эўрапейскую дзяржаву, каб урэшце заняць годны пасад між народамі.

25 Сакавіка 2000 году мы сустракаем у нялёгкіх варунках. Небясьпека паглынаньня Беларусі ўсходнім суседам ня толькі не паменшала, але, наадварот, узмацнілася. Чачэнскія падзеі паказалі: у крамлёўскіх цынічных кагэбістаў асноўныя мэтады адбудовы імпэрыі — гэта правакацыі, забойствы, генацыд. Іхныя намаганьні інкарпараваць Беларусь крок за крокам зьдзяйсьняюцца перадусім у вайсковай сфэры і ў прызначэньні небеларускіх кіроўных кадраў лукашэнкавага рэжыму.

Але сёлета маем падставы дзеля аптымізму значна большыя. Упершыню 25 Сакавіка згуртавана адзначаюць масавымі акцыямі ўсе незалежніцкія дэмакратычныя сілы. Яшчэ летась Беларускі Народны Фронт распачаў працу дзеля стварэньня шырокай і моцнай незалежніцкай кааліцыі. Асноўныя палітычныя партыі — БНФ, Аб'яднаная грамадзянская ды Сацыял-дэмакратычная, Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў (больш як 700 згуртаваньняў), грамадзянская ініцыятыва Хартыя '97 ды прадстаўніцтва Вярхоўнага Савету ўвайшлі ў Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў, дзе цяпер старшынюе Народны Фронт.

Менавіта аб'яднанымі сіламі была зладжаная магутная маніфэстацыя пратэсту супраць ненавіснага рэжыму і ў абарону Бацькаўшчыны — Марш Свабоды 17 кастрычніка 1999 году ў Менску. Марш напалохаў Лукашэнку й паказаў заходняму сьвету нязломную волю беларусаў да Свабоды й Незалежнасьці.

Вось-жа й сёлета згуртаваныя беларускія незалежнікі выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў разам. Акцыю абароны незалежнасьці і свабоды «Вясна-2000» распачынае Марш Свабоды-ІІ ў Менску, прымеркаваны да Дня канстытуцыі 15 сакавіка. Удзельнікі Маршу засьведчаць гатоўнасьць бараніць незалежнасьць краіны, будуць дамагацца ад рэжыму вызваленьня палітычных вязьняў, свабоды прэсы, згоды пайсьці на перамовы пры пасярэдніцтве Арганізацыі бясьпекі й супрацы ў Эўропе — альбо адстаўкі. Цэнтральнай падзеяй «Вясны-2000» стане Дзень Волі 25 Сакавіка. Упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі ў Нацыянальны арганізацыйны камітэт Дня Волі ўвайшлі паўтары сотні чалавек — кіраўнікі ўсіх буйных партыяў і прафсаюзаў, грамадзкія дзеячы, інтэлектуалы, творчыя людзі з усіх рэгіёнаў краіны. У большыні нашых гарадоў адбудуцца шэсьці, мітынгі, пікеты, канцэрты, выставы дзеля ўганараваньня ідэалаў 25 Сакавіка. Адбудуцца страйкі рабочых і дробных прадпрымальнікаў — гэтаксама зь незалежніцкімі патрабаваньнямі. Выніковым акцэнтам «Вясна-2000» стане журботны Чарнобыльскі шлях — гэтаксама зладжаны супольна. «Вясна-2000» — яскравы сыгнал і рэжыму, і сьвету: Беларусь бараніцьме незалежнасьць і свабоду няўхільна й нязломна.

Мы ведаем і цэнім, што Вы, нашыя суродзічы за мяжой, робіце усё магчымае для зьдзяйсьненьня ідэалаў 25 Сакавіка: захоўваеце пераемнасьць Рады БНР як сьведчаньня беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці; узьнімаеце беларускае пытаньне перад сваімі ўрадамі; пялягуеце мову, традыцыю й гістарычную памяць; урэшце, гэтаксама выходзіце на вуліцы й пляцы гарадоў з нашымі сьцягамі. Мы — разам, і таму мы — сіла. Жыве Беларусь!

**Вінцук Вячорка**
*Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» й Партыі БНФ*
*Каардынатар Каардынацыйнае рады дэмакратычных сілаў*



*(Працяг з бач. 1)*

зь сьлезацечным газам, абароненыя шчытамі й шаломамі, нападалі на мірных безабаронных людзей. Жорстка зьбітыя скульптар, чалец Саюзу мастакоў і Мастацкай суполкі «Пагоня» Алесь Шатэрнік, Юрась Беленькі, Анатоль Лябедзька, параненыя многія іншыя людзі. Але, нягледзячы на зьверствы служак рэжыму, два шэсьці ад пляцу Якуба Коласа да месца мітынгу адбыліся, і нават зладзейскі напад узброеных сілаў нутраных войскаў ня здолеў ім перашкодзіць. На мітынг, нягледзячы на рэпрэсіі, сабралося да 12 тысячаў чалавек. Выступілі тыя, каго па дарозе не схапілі: кіраўнікі БНФ Вінцук Вячорка й Вечаслаў Сіўчык, лідэры БСДП й АГП Мікола Статкевіч, Аляксандар Дабравольскі, лідэр барысаўскіх акцыяў пратэсту Алесь Абрамовіч, дачка Юрыя Захаранкі, старшыня Маладога Фронту Павал Севярынец.

Узурпатар чарговы раз спрабуе ўхіліцца ад адказнасьці, зьехаўшы зь Беларусі акурат падчас масавай акцыі пратэсту. Але адказнасьць за ўчыненае панясуць і ён, і ягоны міністар Сівакоў, і ўсе, хто выконваў іхныя злачынныя загады. 25 сакавіка 2000 году рэжым Лукашэнкі кінуў усяму цывілізаванаму сьвету выклік, які перакрэсьліў усе ілюзіі наконт магчымага «дыялёгу» з рэжымам і наконт дэмакратычных выбараў пры гэтым рэжыме.

Наступная буйная акцыя ў Менску адбудзецца 26 красавіка, у дзень гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Заклікаем усіх, каму дарагая будучыня нашае краіны, нашых дзяцей і ўнукаў, выйсьці на вуліцы сталіцы. «Вясна-2000» працягваецца.

*26 сакавіка 2000 г.*

# ВІНШАВАНЬНЕ СТАРШЫНІ ВС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Паважаныя суайчыньнікі!**

9 сакавіка 1918 году Беларусь была названа Народнай Рэспублікай, а ў ноч з 24 на 25 сакавіка Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла «Трэцюю Ўстаўную Грамату», у якой БНР абвяшчалася «незалежнай і свабоднай дзяржавай». Усё гэта адбывалася вясною, у пару сонца й наступленьня цяпла, абуджэньня прыроды й людзкіх надзей. І хоць Радзе БНР не ўдалося правесьці нейкіх значных эканамічных рэформаў і ўмацаваць заяўленую незалежнасьць сваёй дзяржавы, але яна абнародавала галоўныя правы й свабоды чалавека, указала, што Беларусь павінна ахапіць усе беларускія землі й сумежныя часткі Вялікаросіі, дзе ёсьць беларусы, адмовілася прызнаць зьневажальную для Беларусі Брэсцкую дамову, заключаную бальшавіцкім урадам Расеі зь Нямеччынай без удзелу прадстаўнікоў зь беларускага боку, а ў апошні пэрыяд свайго існаваньня многа зрабіла ў вырашэньні праблем асьветы.

Сказанае сьведчыць аб тым, што Днём незалежнасьці й сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь павінен лічыцца менавіта дзень 25 сакавіка. Трэба аддаць незалежнае дзяржаўным і грамадзкім дзеячам тых гадоў і тым, хто захоўваў і працягвае захоўваць за мяжою іх традыцыі. Пашану яны заслужылі сваёй барацьбой за свабоду й незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны.

Сімвалічна, што й Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынята таксама вясною — 15 сакавіка 1994 году. Нядаўняе сьвяткаваньне гэтага дня паказала, што ўрачыста аб'яўленая ў той далёкі 1918 год ідэя незалежнасьці Беларускай дзяржавы працягвае жыць і сёньня. Беларускі народ ня хоча скарыцца дыктатарскаму рэжыму, які ўстанавіўся ў краіне пасьля дзяржаўнага перавароту (лістапад 1996 году). Сёньня гэты рэжым зьяўляецца ня толькі нелігітымным, але й крымінальным, паколькі па факце захопу і ўтрыманьня ім дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам узбуджана крымінальная справа. І ніякія хлусьня й запалохваньні ня могуць перашкодзіць адзначаць 25 сакавіка — Дзень волі й незалежнасьці Беларусі.

Віншую ўсіх суайчыньнікаў, дзе б яны ні знаходзіліся ў гэты дзень, са Сьвятам! Жадаю вам, дарагія сябры, сілы, мужнасьці й посьпехаў ва ўсіх вашых справах.

Няхай жыве вольная, незалежная, дэмакратычная Рэспубліка Беларусь!

**С. Шарэцкі**

# ПРАДСТАЎНІК ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМАНТУ ЗША НАВЕДАЎ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІЯ АСЯРОДКІ

Кааліцыя ў абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі гасьціла ў сябе загадчыка Беларускага аддзелу Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША Джона Армстронга, які наведаў беларускія асяродкі ў Нью-Джэрзі й Нью-Йорку 26 і 27 лютага. Сп. Армстронг пабачыў царкву сьв. Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква), праваслаўную царкву сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (юрысдыкцыя Канстантынопальская Патрыярхату) ды пабыў таксама на беларускім фэстывалі ў залі катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) у Брукліне. Ён правёў даўжэйшыя гутаркі з кіраўнікамі Кааліцыі, зь лідэрамі Беларускага незалежніцкага руху сп. Зянонам Пазьняком ды прадстаўнікамі БАПЦ.

У гутарках зь сябрамі Кааліцыі сп. Армстронг гаварыў пра моцную падтрымку з боку амэрыканскага ўраду тым, хто змагаецца зааднаўленьне дэмакратыі ў Беларусі. Ён адзначыў вялікае ўзмацненьне рэжымам Лукашэнкі перасьледу праваабаронцаў на працягу апошняга году. Адносна саюзу Беларусі й Расеі да пагрозы, якую ён з сабой нясе незалежнасьці Беларусі, сп. Армстронг заявіў: «Урад Злучаных Штатаў ня супраць інтэграцыі паміж дзяржавамі, калі такая інтэграцыя дабраахвотная, узаемавыгадная ды не ўзводзіць новых бар'ераў. Але каб інтэграцыя была дабраахвотнай, павінен быць дэмакратычны працэс. У Беларусі няма дэмакратычнага працэсу. Дзеля гэтага саюз з Расеяй нельга разглядаць у якасьці дабраахвотнага, які прадстаўляе сабой жаданьні беларускага народу». Сп. Армстронг таксама адзначыў недэмакратычны характар выбарчага закону, падпісанага сп. Лукашэнкам 15 лютага сёлета, і падкрэсьліў, што закон гэты прыняты безь перамоваў з дэмакратычнай апазыцыяй. Ён дадаў, што зроблена гэта было наўсуперак абяцаньням, якія даў сп. Лукашэнка, калі падпісваў Стамбульскую Дэкларацыю. Ад'яжджаючы зь Нью-Джэрзі, сп. Армстронг запэўніў кіраўнікоў Кааліцыі, што падтрымваньне амэрыканскім урадам незалежнае і дэмакратычнае Беларусі будзе працягвацца. Ён падзякаваў Кааліцыі за запросіны ды заявіў пра сваю даступнасьць для далейшых гутарак з прадстаўнікамі беларуска-амэрыканскага грамадзтва.

# У ВАШЫНГТОНЕ АМЭРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПРАТЭСТАВАЛІ СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ Й РАСЕЙСКАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

25 сакавіка ў Вашынгтоне адбылася дэманстрацыя перад будынкам беларускае, а пасьля расейскае амбасадаў. Каля 150 чалавек, сярод якіх было шмат новых імігрантаў зь Беларусі, адзначылі дэманстрацыяй 82-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Разам з гэтым яны выказалі пратэст супраць лукашэнкаўскае дыктатуры ў Беларусі й нацыянальнае здрады праз задуманую ліквідацыю суверэнітэту рэспублікі й зьліцьцё яе з Расеяй у адну дзяржаву. Дэманстранты пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, з мноствам плякатаў, скандавалі лёзунгі: «Жыве Беларусь!»; «Далоў Лукашэнку!»; «Ho-ho-ho! Lukashenka got to go!» і падобныя. Праходжым раздаваліся лістоўкі зь інфармацыяй пра Беларусь і тлумачэньнем прычынаў дэманстрацыі.

Віталь Зайка, старшыня ньюёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, заявіў, што дэманстрацыя праводзіцца ў знак салідарнасьці з падобнымі пратэстамі, якія адбываліся таго самага дня ў беларускай сталіцы Менску ды ў гэткіх гарадох Беларусі, як Віцебск, Берасьце, Салігорск, Слонім, Маладэчна ды іншыя. Янка Запруднік працытаў паведамленьне пра бязьлітасны разгон менскае дэманстрацыі, што адбылася колькі гадзін перад тым таго-ж самага дня. Пазьнейшыя паведамленьні міжнародных агенцтваў друку толькі пацьвердзілі жудасныя дэталі разгону.

На праведзеным перад пасольствам РБ мітынгу была прынятая рэзалюцыя з асуджэньнем здушваньня волі беларускага народу й гвалтаваньня правоў чалавека. Паколькі ніхто ані зь беларускае ані з расейскае амбасады ня выйшаў да дэманстрантаў, рэзалюцыя была пакінута ля ўваходу ў будынкі пасольстваў.

Дэманстрацыя была арганізаваная пад знакам Кааліцыі ў абарону дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі аддзеламі БАЗА ў Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Кліўленду з удзелам прадстаўнікоў БАЗА ў Вашынгтоне й Фэрфаксе, штат Вірджынія.

Падобныя дэманстрацыі салідарнасьці з дэмакратычнай апазыцыяй у Беларусі адбыліся ў Вільні, Кіеве, Варшаве, Празе, Лёндане, Брусэлі й Стакгольме.








# СЛУХАНЬНІ Ў КАНГРЭСЕ ЗША, ПРЫСЬВЕЧАНЫЯ БЕЛАРУСІ

Амэрыканскі ўрад, як і ўрады Эўрапейскага Саюзу, уважліва сочыць ход змаганьня ў Беларусі за незалежнасьць, дэмакратыю й рыначыя рэформы. Захад стараецца дапамагчы беларускай дэмакратыі выжыць і змацавацца супраць лукашэнкаўскай дыктатуры, што паставіла сябе на службу расейскаму імпэрыялізму. Другі раз ужо на працягу году адбыліся ў Кангрэсе ЗША слуханьні ў справе Беларусі. Кангрэсавая Камісія па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе (ведама таксама як Гэльсынская Камісія) правяла 9 сакавіка слуханьні, загалоўленыя «Беларусь: захрасла на скрыжаваньні». (Папярэднія адбыліся 27 красавіка летась пад заг. «Беларусь — назад у СССР.»)

Перад камисіяй, у якой старшынюе кангрэсмэн Крыстафор Сьміта (рэспубліканец зь Нью-Джэрзі), гэтым разам выступілі са сьведчаньнямі: сябра Гэльсынскае Камісіі й памочнік дзяржаўнага сакратара Гаральд Коў; адмысловы дараднік дзяржсакратара па справах СНД Рос Уільсан; старшыня ВС РБ 13 скліканьня Сямён Шарэцкі; былы старшыня ВС РБ 12 скліканьня Станіслаў Шушкевіч; сябра ВС РБ 13 скліканьня й старшыня камісіі ВС па міжнародных справах Анатоль Лябедзька; кіраўнік назіральнае групы Парляманцкае Асамблеі АБСЭ ў Менску, румынскі парлямантар Адрыян Сэвэрын і генэральны сакратар ПА АБСЭ Спэнсар Олівэр.

Удзельнікамі слуханьняў былі таксама кангрэсмэны Джоўзэф Пітс (рэспубліканец з Пэнсыльваніі), Алсі Гэйстынгс (дэмакрат з Флярыды) ды Сэм Гэйдэнсан (дэмакрат з Канэкутыкет, бацька якога родам зь Беларусі).

Беларускае пасольства ў Вашынгтоне настойліва дамагалася, каб і ягонаму прадстаўніку далі магчымасьць выступіць на слуханьнях, але пасольству было сказана, што паколькі ЗША не прызнаюць Лукашэнку як легітымнага прэзыдэнта, дык няма асновы слухаць і ягоных дыпляматаў. На слуханьнях прадстаўнікі пасольства, уключна з паслом В. Цэпкалам, былі, але толькі як назіральнікі сярод іншых слухачоў, якіх налічвалася чалавек пад 80.

Адчыняючы трохгадзіннае паседжаньне, старшыня Сьміт сказаў:

«Рэжым Лукашэнкі працягвае заціскаць цуглі ўлады, здушваючы асноўныя свабоды й гвалцячы чалавечыя правы беларускіх грамадзянаў. Рэжым адмаўляецца ўваходзіць у сутнасны дыялёг з апазыцыяй. Ён пустасловіць, гаворачы пра дыялёг, або выкарыстоўвае тактыку адцягваньня й заблытваньня, што нагадвае камуністычную мінуўшчыну. Калі Лукашэнка не пачне сумленнага дыялёгу з апазыцыяй, ня скончыць паліцыйных рэпрэсіяў, ня дасьць свабоды сродкам масавай інфармацыі й выбарчаму працэсу, Беларусь ніколі не дасягне ўзроўню пашаны асноўных правоў чалавека, пералічаных у Гэльсынскіх дакумэнтах, ды не перастане быць ізгоем у сям'і эўрапейскіх народаў».

У сваіх сьведчаньнях спсп. Шарэцкі, Шушкевіч і Лябедзька, спасылаючыся на факты й дакумэнты, гаварылі ня толькі пра здушваньне свабоды, зьдзекі над апанэнтамі ды заціск правоў чалавека й нацыянальнай культуры, але, галоўна, пра пагрозу беларускай дзяржаўнасьці з боку расейскага імпэрыялізму, які поўнасьцю падтрымвае лукашэнкаўскі рэжым ды імкнецца ператварыць Беларусь у свой ваенна-стратэгічны «калідор».

Адносна дыялёгу паміж апазыцыяй ды ўладай, на які заходнія дзяржавы ўскладаюць надзею, каб вывесьці краіну з крызісу, сп. Адрыян Сэвэрын сказаў, што «сучасная сытуацыя ў Беларусі не дае шмат прычынаў да энтузіязму», але што далейшыя намаганьні наладзіць дыялёг будуць рабіцца.

Слуханьні наведаў таксама кангрэсмэн Дык Армі (рэспубліканец з Тэхасу), лідэр рэспубліканскае бальшыні ў Палаце Прадстаўнікоў. Сп. Армі выказаў падтрымку беларускай апазыцыі ў ейным змаганьні.

На слуханьнях былі карэспандэнты беларускае службы радыё «Свабода», расейскае службы «Голасу Амэрыкі» ды некаторых органаў друку.

Мовамі слуханьняў былі ангельская, беларуская й расейская.

**Я.З.**

## ЛЁНДАН

13 лютага Англа-Беларускае таварыства разам з ЗБВБ зарганізавала прагляд фільму «Жах», які з'яўляецца сваесаблівым працягам вядомага фільму «Звычайны прэзыдэнт», паказвае парушэньне правоў чалавека на Беларусі. Каля 50 чалавек, беларусаў і брытыйцаў, прыйшло паглядзець гэтую стужку.

Пасьля прагляду перад грамадою прамаўляў вядомы грамадзкі й культурны дзеяч др. Янка Запруднік, які наведаў Брытанію з нагоды канфэрэнцыі ў горадзе Бас. Др. Запруднік адзначыў, што ён вельмі задаволены станам беларусістыкі ў сьвеце. Усё больш і больш людзей, як на Беларусі, гэтак і па-за яе межамі, цікавяцца Беларусьсю на навуковым узроўні, аналізуюць палітычныя, эканамічныя, культурныя працэсы на нашай Бацькаўшчыне. Др. Запруднік таксама адзначыў, што нягледзячы на цяперашні рэжым, беларуская прысутнасьць у сьвеце хутка пашыраецца.

* * *

Англа-Беларускае таварыства распачало выданьне новай газэты — «Бюлютэнь Беларускіх Навінаў». Гэтая газэта, што выдаецца ў ангельскай мове, будзе выходзіць штомесяц ды інфармаваць пра апошнія падзеі на Беларусі і ў беларускіх суполках за мяжой. Рэдактар газэты — вядомая ангельская журналістка й паэтка Вера Рыч. У лютым выйшаў пробны (нулявы) нумар газэты. Першы нумар — сакавіковы.

* * *

Сайт у Сеціве «Беларусы ў Вялікае Брытаніі і Ірляндыі» (http://home.clara.co.uk/skaryna) быў створаны ў жніўні 1999 беларускімі студэнтамі як сайт-парасон для ўсёй беларускай грамады ў Брытаніі і Ірляндыі, а таксама для тых ангельцаў, ірляндцаў, валійцаў, шкотаў, якія цікавяцца Беларусьсю. Мы заклікалі й заклікаем усе беларускія ці зьвязаныя з Беларусьсю суполкі й таварыствы ствараць свае старонкі на нашым сайце. На сёньняшні дзень наш сайт уключае ўжо чатыры старонкі, а таксама дыскутыйны клюб «Чарнобыль». Акрамя гэтага, мы зьмяшчаем інфармацыю пра надыходзячыя падзеі, а таксама невялікую кніжную палічку, дзе даем агляды асобных кнігаў пра Беларусь.

Што ж можна знайсьці на нашым сайце?

Старонка Англа-Беларускага Таварыства пазнаёміць вас з гісторыяй і сёньняшнім днём гэтае аргазацыі; вы знойдзеце тут «Часапіс Беларускіх Штудыяў» (Journal of Belarusan Studies) і інфармацыю пра газэту гэтага Таварыства "Belarusan Chronicle", плянуемыя імпрэзы.

Старонка Беларускай Бібліятэкі й музэю ім. Ф. Скарыны зьмяшчае інфармацыю пра ўнікальную калекцыю кнігаў, манускрыптаў, экспанатаў. Пра гэта распавядае айцец Надсон.

Старонка Беларускае Каталіцкае місіі далучае вас да гісторыі й сучаснага стану Беларускай грэка-каталіцкай царквы, знаёміць з жыцьцём і дзейнасьцю слынных дзеячаў нашае культуры біскупа Ч. Сіповіча, айца Я. Гэрмановіча. На гэтай-жа старонцы вы знойдзеце расклад службаў у Беларускай грэка-каталіцкай капліцы сьвятых Пятра й Паўла.

Новая старонка, якая літаральна днямі ўвайшла ў наш сайт, — старонка Беларуска-Ірляндзкага Таварыства. На гэтай старонцы можна даведацца пра гісторыю й дзейнасьць Таварыства, а таксама пра сьвяткаваньне Дня Сьв. Патрыка ў Менску.

Наш сайт разьвіваецца, і мы чакам далучэньня новых сяброў. Завітайце да нас!

* * *

25 Сакавіка беларусы Вялікае Брытаніі сьвяткавалі 82-я ўгодкі Дня Беларускае Незалежнасьці. Сьвяткаваньне пачалося са сьвяточнага малебну ў капліцы сьвятых Пятра й Паўлы, які служыў а.Аляксандар Надсан.

Пасьля была акадэмія. Адкрыла яе старшыня ЗБВБ спадарыня Лёля Міхалюк. Былі прачытаныя віншавальныя лісты ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, беларускіх суполак ЗША, Канады і Аўстраліі. З галоўным дакладам выступіў намесьнік бібліятэкара беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны Юрась Лаўрык. У сувязі з тым, што прысутнічала шмат ангельскіх сяброў, быў зарганізаваны сінхронны пераклад на ангельскую мову.

Вядомая перакладчыца й паэтка Вера Рыч разам з Сяргеем Статкевічам чыталі вершы беларускіх паэтаў. На заканчэньне старшыня Англа-Беларускага Таварыства, Rowan Castairs, павіншаваў усіх са сьвятам, зазначыўшы, што ўсе ангельскія сябры хочуць бачыць Беларусь сапраўды вольнай ды незалежнай эўрапэйскай краінаю.

**Павал Александровіч**

## БОСТАН

Дзьве досыць значныя падзеі адбыліся ў жыцьці беларускай грамады ў Бостане.

Яны злучаныя паміж сабой, бо адна залежыла ад другой.

Даўно нашая грамада чакала на адкрыцьцё беларускай кавярні з крыху дзіўным назовам «Лімонія» й нарэшце дачакалася. Кавярня адчыніла свае гасьцінныя дзьверы перад аматарамі смачна падсілкавацца, сярод якіх аўтар гэтых радкоў не апошні. Няма жаданьня пераказваць тут усе «блуканьні па пакутах», праз якія прыйшлося прайсьці Сьвятлане й Аляксандру, бізнэсмэнам зь Менску, што вырашылі прывучыць амэрыканцаў да беларускай кухні. Але ня будзем аб сумным. Самае галоўнае, што нарэшце ў нашага Адзьдзелу БАЗА ў Новай Англіі зьявіўся свой беларускі куток, дзе можна ўтульна пасядзець, пакаштаваць амаль забытыя беларускія стравы.

Адсьвяткаваць гэтую падзею мы вырашылі супольным абедам у нашай кавярні. Што й было зроблена. Калі мы прыехалі ў кавярню, там нас чакалі гасьцінныя гаспадары. Заходзім, азіраемся вакол. І нават каб ты й ня ведаў, куды трапіў, дык адразу зразумеў-бы, гледзячы на нашыя беларускія ільняныя абрусы й сурвэткі, вышытыя беларускім нацыянальным арнамэнтам. Прыгожа і ўтульна. Ледзь чутна гучыць музыка. Не адразу, а прыслухаўшыся, зразумеў — дык гэта-ж «Песьняры». А пах, які адразу заказытаў нос, не адзін раз прымусіў палыкаць сьлюну. Тут падышло яшчэ некалькі сяброў Адзьдзелу. Шкада, што надвор'е было дрэнным, ліў дождж. Мабыць, гэтым тлумачыцца тое, што хоць было нас няшмат, але за добрай і смачнай ежай, абмяркоўваючы сытуацыю ў Беларусі й нашыя пляны, незаўважна наш абед перарос у вячэру. І шкада было адыходзіць, але мы абавязкова будзем прыходзіць у нашую кавярню зноў і зноў, прыводзячы туды сяброў і знаёмых. Бо трэба абавязкова падтрымаць першую ў Бостане беларускую кавярню.

А тым, хто, прачытаўшы гэткыя радкі, захоча пакаштаваць сапраўды смачных беларускіх дзеруноў ці бліноў, раіў-бы зазірнуць у кавярню «Лімонія», якая знаходзіцца па адрасе 80 Langley Rd. Newton Massachusets.

**Раман Кардонскі**

## ФІНЛЯНДЫЯ

У Гельсінкі з Варшавы 25 сакавіка прыляцеў паэт Уладзімер Някляеў. Летась ён выехаў на кангрэс ПЭН у Варшаву, дзе й застаўся. Беларускія ўлады абвінавачваюць яго ў злоўжываньні службовым становішчам і ставяць пад пытаньне выкарыстаньне дзяржаўных грошаў былым галоўным рэдактарам часапісу «Крыніца».

У Гельсінкі паэта запрасіў фінскі ПЭН і сам горад у межах праграмы «Бясьпечныя гарады» для перасьледуемых пісьменьнікаў. Гэтая праграма была заснаваная міжнародным ПЭН-клюбам для творчых людзей, якіх перасьледуюць на Бацькаўшчыне.

25 сакавіка пісьменьнік з жонкаю й дачкою засяліліся ў невялічкую кватэру на беразе Фінскага заліву. Прыезд беларускага паэты выклікаў немалую цікавасьць фінскай прэсы. Па-першае, з-за блізасьці геаграфічнай. Па-другое, фіны разумеюць сытуацыю на Беларусі й маральна падтрымоўваюць спробы ўсталяваць поўную незалежнасьць ад Расеі. Гістарычна яны самі за Савецкім Саюзам былі змушаныя штораз узгадняць усё зь «вялікім суседам».

На прэсканферэнцыі ў панядзелак спадар Някляеў сказаў, што прычынай адмовы вярнуцца ў Менск была палітыка кіраўніцтва краіны на русіфікацыю і аб'яднаньне з Расеяй. Для творчага чалавека галоўным з'яўляецца захаваньне мовы й культуры нацыі. І, па словах Някляева, пісьменьнік грашыць, калі займаецца палітыкай, п'е, нараджае дзяцей. Ён павінен скарыстаць да канца той талент, якім яго надарыў Бог. Пісьменьнік патлумачыў, што зараз на Беларусі палітыкай займаюцца ўсе, нават тыя арганізацыі, якім ня трэба гэтага рабіць. Палітыка ня здольная паўплываць ні на што, калі яна не закранае асноўныя рэчы: мову й культуру.

Гаворачы пра мэнталітэт беларусаў, Някляеў прыгадаў савецкі мэнталітэт. Сябе ён таксама залічвае да савецкага чалавека, але, кажа, спрабуе асэнсаваць, што такое савецкі чалавек ў ім, і пазбавіцца яго.

У інтэрвію самай вялікай фінскай газэце Някляеў распавёў пра свае пляны. Летась яму не давялося шмат займацца літаратураю. Сёлета паэт зьбіраецца працаваць над творам, які апавядае, як гісторыя жыве ў чалавеку і як чалавек жыве ў гісторыі. Жанр новага твора пісьменьнік яшчэ ня вызначыў.

**Аліна Бельская**

## ЧАГО ЧАКАЕ ЗАХАД АД БЕЛАРУСКІХ ДЭМАКРАТАЎ?

Намаганьні Крамля й ейнага паслугача Аляксандра Лукашэнкі далучыць Беларусь да Расеі дайшлі нарэшце да цяму заходніх палітыкаў. Захад бачыць, што ўлучэньне беларускай тэрыторыі ў ваенную палітычную прастору Масквы істотна мяняе геастратэгічнае палажэньне ў цэнтральнай Эўропе, заганяючы клін паміж Прыбалтыкай ды Украінай. Страта Беларусяй незалежнасьці, калі-б да гэтага дайшло, значна ўплыве на палітычныя настроі ў суседніх краінах, насьцярожваючы іх да магчымага ціску на іх з боку Расеі. Да Беларусі апошнім часам пачалі бліжэй прыглядацца ды прыслухоўвацца на Захадзе і палітыкі і дасьледнікі. Што да апошніх, дык довадам росту іхнага зацікаўленьня могуць служыць дзьве вялікія міжнародныя канфэрэнцыі, прысьвечаныя Беларусі — першая ў Гарвардзкім унівэрсытэце ў красавіку летась, а другая ва ўнівэрсытэце ангельскага гораду Бат у лютым сёлета, абедзьве фінансаваныя заходнімі ўстановамі. Матар'ялы абедзьвюх канфэрэнцыяў выходзяць кніжнымі выданьнямі.

На палітычным полі завастрэньне ўвагі да Беларусі выявілася найбольш выразна ў павышаным зацікаўленьні Вашынгтону й Эўрапейскага Саюзу справамі беларускай дэмакратычнай апазыцыі. Нядаўнае наведаньне Старшынём ВС РБ Сямёнам Шарэцкім Канады й Злучаных Штатаў, дзе ён сустракаўся з высокімі ўрадаўцамі, візыты аходеэўрапейскіх дыпляматаў у Менск, наведаньне кіраўніком Дзяржаўнага Дэпартаманту Джонам Армстронгам беларускіх асяродкаў у Нью-Джэрзі й Нью-Ёрку, слуханьні ў красавіку летась і ў сакавіку сёлета ў справе Беларусі ў Кангрэсе ЗША ды вострыя заявы Дзярждэпартаманту й Белага Дому апошнім часам у абарону ўдзельнікаў сёлетніх мірных дэманстрацыяў у Беларусі — усё гэта паказвае, што справа беларускае незалежнасьці й дэмакратыі мае шырокае міжнароднае падтрыманьне.

У абліччы гэтае новае зьявы беларускія дэмакратычныя сілы павінны ўзважыць сваю павышаную ролю ў справе абароны Бацькаўшчыны. Яны павінны адказаць тым, да чаго заклікаюць і амэрыканскія і эўрапейскія палітыкі — узаемнай салідарнасьцю, задзіночаньнем сваіх радоў. Бо толькі аб'яднаная дэмакратычная апазыцыя будзе мець максымум падтрымкі з боку заходніх дэмакратыяў. Перад лідэрамі беларускіх дэмакратычных партыяў, групаў і плыняў стаіць як ніколі важнае заданьне: адкінуць усякія асабістыя амбіцыі, шукаць супольных плятформаў, супольных намаганьняў, супольных дзеяньняў — усё гэта на захаваньне й замацаваньне нацыянальнае дзяржаўнасьці, дэмакратыі й нармальных дачыненьняў з цывілізаваным сьветам.

**Янка Запруднік**

## «БЕЛАРУСЬ — ЗАБЫТАЕ СЭРЦА ЭЎРОПЫ?»

Пад гэткім назовам прайшла ва ўнівэрсытэце ангельскага гораду Бат (Bath) 11-12 лютага сёлета канфэрэнцыя з удзелам у ёй каля сарака навукоўцаў з Англіі, Беларусі, ЗША ды Чэхіі. Было прачытана 14 дакладаў на тэмы, зьвязаныя з сучасным палітычным, эканамічным і культурным станам Беларусі, а таксама з замежнай палітыкай Менску.

Ініцыятыву правесьці канфэрэнцыю падала маладая дасьледніца сацыялягічных пытаньняў Вольга Карастэлёва — мянчанка, якая выйшла замуж за англічанку й працуе цяпер ва ўнівэрсытэце гор. Бат. Частка грашовай дапамогі мерапрыемству знайшлася з фондаў Эўрапейскага Саюзу.

У адрозьненьне ад папярэдніх беларусаведных канфэрэнцыяў, якія праводзіліся апошнімі гадамі на Захадзе, гэтая адзначалася значна большым удзелам маладых вучоных зь Беларусі, якія здабываюць цяпер або здабылі навуковыя ступені ў заходніх ВНУ. Гэта здольныя маладыя людзі зь веданьнем замежных моваў. Усе яны патрыёты свае краіны й шмат хто зь іх добра гаворыць па-беларуску. Расьце маладая зьмена беларусаведаў, якія раскажуць і свайму народу і сьвету больш праўдзіва пра Беларусь, каб ня трэба было больш пытацца, ці яна «забытае сэрца Эўропы».

Матар'ялы канфэрэнцыі выйдуць асобным зборнікам. Неўзабаве павінна пабачыць сьвет кніга з матар'яламі падобнае беларусаведная канфэрэнцыі, якая адбылася ў красавіку летась у Гарвардзкім унівэрсытэце ў ЗША.

**Я.З.**

## «ГРОЗНЫ ПАМЁР ПА НАШАЙ АБЫЯКАВАСЬЦІ»

Пад гэткім загалоўкам бэльгійская газэта *La Libre Belgique* (17 лютага) апублікавала артыкул сэнатара Жоржа Дэлеманя. Горад Грозны, піша Дэлемань, памёр па нашай абыякавасьці, разбураны стальлю, агнём і порахам Пуціна. Ён быў сьцёрты звар'яцелым забойствам расейскага ўраду, які не вагаецца пад ціскам выбарчага тэрміну адрадзіць у крыві страчаную гордасьць заблуджанае нацыі. Ня будзе ні кветак, ні вянкоў, ні міністраў замежных спраў, каб паплакаць аб зьнікненьні гэтага гораду, дзе Пушкін у іншым часе знаходзіў натхненьне для свайго мастацтва... Гуманітарыі адсутнічаюць. Ім не дазволена і яны баяцца небясьпекі. Агонія Грознага прадаўжалася чатыры месяцы па абыякавасьці Эўропы, якая дрыжыць сёньня ў змаганьні супраць фашызму ды ў абароне правоў чалавека.

Турбуючы Пінашэ, кляймуючы крайнюю правую партыю Аўстрыі, піша сэнатар, мы выпрабоўваем наш абавязак памяці, наш прававы імпэратыў і нашу волю супрацьву. Гэта неабходна. Але ці можна адначасна быць глухімі на малітвы ахвяраў трагедыі ў руху? Чаго вартовая памяць без акту, без асуджэньня, калі злачынствы прадаўжаюцца? Ці магчыма адмовіць поўную баналізацыю зла — імкнучыся аж да забароны канікулаў нашым дзецям у Аўстрыі, — але адначасна адвесьці погляд ад Грознага, ахвяры магутнай сьмярдзючай ксэнафобіі?

Мусульманская суполка ў Бэльгіі схільная думаць, што Чэчня мела-б большую падтрымку, калі-б яна не была мусульманскай. Яна не памыляецца...

Ці маем мы хоць крыху сумленьня пры факце, што Грозны — першы горад сьвету, сьцёрты з твару зямлі пасьля зьнішчэньня Вукавару ў 1991 г., першая сталіца, зьнішчаная з карты пасьля Бэрліну ў 1945 годзе? Што на самой справе мы прабавалі зрабіць, каб перашкодзіць гэтаму? Апрача пары спозьненых і часта двухзначных абвінавачаньняў і пары беспэрспэктыўных захадаў — ня шмат.

Як і ў выпалку з падзеямі ў С'ерра-Леонэ, як ува ўсходнім Конга, дзе нянавісьць да іншага забівае й тэрарызуе з дня на дзень, наша чуйнасьць засталася немаю. Выглядае, што яна дзейнічае толькі са спазьненьнем і ў прасторы, абмежаванай да Заходняй Эўропы.

Скажаце мне, піша далей сэнатар Дэлемань, што ёсьць Чылі. Але Пінашэ выклікаў наш гнеў толькі тады, калі ступіў крок у Эўропу. Дзіўная шызафрэнія, якая дазваляе нам сартаваць парушэньні правоў чалавека, якія вартыя нашае абароны. Масавае «гуманітарнае» НАТА ў Косаве? Воплескі з усіх лавак. Спрэчнае палітычнае пытаньне Расеі ў Грозным? Добра, добра, будзьма сур'ёзнымі.

«Гісторыя, — піша Сіоран, — ёсьць іронія ў дзеяньні, насьмешка Духу празь людзей і здарэньні». Вайна ў Чэчні прыкрыла гэтую іронію крыві шматлікіх нявінных. Этыка нацыяў заўсёды ўпіраецца ў інтарэсы дзяржаваў.

Аднак міжнароднае права дазваляе нам на дзейнасьць. Аднак міжнародныя кампэтэнтныя інстанцыі кіпяць: АБСЭ, Эўрапейская Рада, ААН... Эпоха ў гонары, пакрытым заходнімі дэмакратыямі. Не затрымліваймася на Прынстане, Вене ці на Лёндане. Адважваймася на Грозны, Фрытаўн, Букаву! Нас будуць судзіць у гісторыі паводле нашых здольнасьцяў ва ўстрымваньні рук катаў, паднятых над ахвярамі.

**Пераклаў Янка Жучка**

## ЧАГО НЯ ВЕДАЕ ВАЛЕРЫ ЦЭПКАЛА, ПАСОЛ РБ У ВАШЫНГТОНЕ

Цікава, хто з каго робіць дурня — менская радыёстанцыя з Цэпкала ці Цэпкала зь менскае радыёстанцыі? А справа ў тым, што Менскае радыё 15 сакавіка (заўважце: гэта ў дзень дэманстрацыі супраць лукашэнкаўскага рэжыму) падало выказваньне беларускага пасла ў Вашынгтоне В. Цэпкалы пра слуханьні ў справе Беларусі, якія адбыліся 9 сакавіка ў кангрэсе ЗША. Сп. Цэпкала сказаў, што прадстаўнікі беларускае апазыцыі, якія выступалі на слуханьнях, не дасягнулі мэты, бо «не было прынята ніякае дэклярацыі, заявы або рэзалюцыі».

Кангрэсавые слуханьні, як ведама, праводзяцца не патое, каб прыймаць нейкія пастановы, а выключна для ўстанаўленьня фактаў і выслуханьня сьведкаў або экспэртаў у тым ці іншым пытаньні, і ніколі ніякіх «дэклярацыяў, заяваў або рэзалюцыяў» на слуханьнях не прымаецца.

Калі сп. Цэпкала за час свае службы ў Вашынгтоне не даведаўся, што такое — кангрэсавыя слуханьні, дык ён дарма есьць хлеб у Лукашэнкі. А калі ён ведае, што такое слуханьні, дык тады становіцца ясна, што ашуканствам слухачоў менскага радыё займаецца нейкі чыноўнік у лукашэнкаўскім міністэрстве хлусьні.

## ЛІДЭРЫ БНФ У СТАЛІЦЫ ПАЎНОЧНАЙ ЭЎРОПЫ

Старшыня БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вінцук Вячорка й намесьнік старшыні Віктар Івашкевіч 6-8 сакавіка наведалі з афіцыйным візытам Стакгольм.

Беларуская дэлегацыя, у складзе якой таксама былі віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Анатоль Лябедзька, чалец Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Сямён Домаш, намесьнік старшыні БСДП Аляксей Кароль, міжнародны каардынатар Хартыі-97 Андрэй Саньнікаў і старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Ліцьвіна, пачала сустрэчы з афіцыйнага абеду зь міністрам замежных справаў Швэцыі сп-няй Аннай Лінд. Міністар адзначыла, што Швэцыя як найпільней сочыць за разьвіцьцём падзеяў у Беларусі й дамагаецца выкананьня рашэньняў Санкт-Пецярбурскай дэклярацыі й Стамбульскага саміту АБСЭ наконт Беларусі. Сп-ня Лінд асабіста правяла прэсавую канфэрэнцыю для беларускіх гасьцей, дэманстратыўна надзеўшы значок Маршу Свабоды 15 сакавіка.

У Рыксдагу — парлямэнце Швэцыі — першы віцэ-сьпікер Андэрс Б'ёрк, дарэчы, былы міністар абароны краіны, запрасіў беларусаў да канфэрэнцыйнага стала, упрыгожанага сінежоўтым швэдзкім і нашым бел-чырвона-белым сьцяжкамі. Ён пацьвердзіў, што Швэцыя разглядае Беларусь як арганічную частку паўночнаэўрапейскага (Балтыйскага) рэгіёну і як прыярытэтны кірунак свае палітыкі. «Беларусь павінна глядзець у бок Балтыкі», сказаў сп. Б'ёрк і прывёў прыклад Эстоніі, якая пасьпяхова ўвайшла ў кола паўночнаэўрапейскіх краінаў. Віцэ-сьпікер падзяліўся сваім бачаньнем геапалітычнае будучыні Эўропы: міжземнаморскія краіны паводле Барсэлёнскае дамовы хутка ствараюць прывабны для інвэстыцыяў клімат, і паўночнаэўрапейскія балтыйскія краіны павінны сьпяшацца, каб не прагуляць у міжрэгіянальнай канкурэнцыі. На жаль, адзначыў сп. Б'ёрк, «паўночнае вымярэньне» Эўропы поўнасьцю не адбудзецца, дакуль ня будзе дэмакратычнага разьвіцьця ў Беларусі.

У Камітэт замежных справаў Рыксдагу ўваходзяць праводныя дзеячы швэдзкіх палітычных партыяў. Старшыня Камітэту сп-ня Віёля Фуруб'елькэ распавяла, што яна й калегі сочаць за сытуацыяй у Беларусі ды востра на яе рэагуюць з восені 1996 году й рыхтуюць адпаведныя прапановы Рыксдагу і Эўрапарлямэнту. Швэцыя павінна павялічваць сваю прысутнасьць у Беларусі, сказала сп-ня Фуруб'елькэ.

На сустрэчах панавала ўзаемаразуменьне паміж беларускім і швэдзкім бакамі ў ацэнцы легітымнасьці цяперашняга ўладнага рэжыму ў Менску, у неабходнасьці дамагацца ўзгодненага фармату перамоваў, у неабходнасьці адстойваць незалежнасьць Беларусі. Наша дэлегацыя прапанавала Швэцыі адчыніць амбасаду ў Менску. Гэта было б сьведчаньнем стаўленьня Швэцыі да Беларусі як да незалежнай дзяржавы ды інтэнсыфікавала б нашыя сувязі. Кіраўнікі БНФ зьвярнулі ўвагу швэдзкіх урадоўцаў і парламэнтароў на небясьпеку, якую нясе рэалізацыя расейскай імпэрскай палітыкі на беларускім кірунку.

Акрамя згаданых, адбыліся спатканьні ў Швэдзкім інстытуце і агенцтве СІДА — дзяржаўных ведамствах, якія займаюцца арганізацыяй міжнародных кантактаў, і ў Форум Сюд — асацыяцыі няўрадавых арганізацыяў, зацікаўленых двухбаковымі праектамі. Завяршыў праграму шматлюдны сэмінар на тэму сытуацыі ў Беларусі ў Цэнтры Улафа Пальмэ. Сэмінар вёў Чэл Альбін Абрахамсон, аўтар кнігі «Беларусь» — 89 мм ад Эўропы».

Кіраўнікі БНФ сустрэліся з прадстаўнікамі Партыі Цэнтру, далі інтэрвію Швэдзкаму радыё да газэце Хрысьціянска-дэмакратычнае партыі "Kristdemokraten", мелі гаворку зь беларускімі палітычнымі ўцекачамі — сябрамі БНФ.

Надзвычай насычаная праграма візыту ды яго высокі ровень засьведчылі, што Швэцыя робіць поўнамаштабны паварот свае замежнае палітыкі ў бок дэмакратычнае незалежнае Беларусі.

## НОВЫЯ КНІГІ

У Аўстраліі накладам 25 асобнікаў выйшла кніга **Віктара Кавалеўскага «Беларусы ў Адэляідзе»**. Кніга (у беларускай ды ангельскай мовах) выдадзеная дзякуючы гранту Міністра Шматнацыянальных Культураў Джона Ольсэна й прысьвечаная Янку Роллсану (таму ў кнігу ўключаны ягоныя паэмы, а таксама аўтабіяграфічная аповесьць). Кніга зьмяшчае важныя дакументы з жыцьця беларускай грамады ў Паўднёвай Аўстраліі, а таксама камэнтары да іх. Асаблівая ўвага нададзена гісторыі беларускай царквы ў Адэляідзе.

## ЦЫТАТА

«Дасылаю табе мае апошнія апавяданьні, можаш перакладаць іх у што заўгодна — у расейскую, ангельскую, францускую, санскрыт ці ідыш. У любой з гэтых моў будзе карысьці болей як у беларускай. Бо гэта ўжо наш нацыянальны лёс. Нашая бацькаўшчына — гэта на самой справе ўнікальная краіна з ўнікальным кіраўніцтвам. Гэтая ўнікальнасьць, зрэшты, робіць яе адметнай сярод другіх у сьвеце, інакш нам зусім-бы ня вылучыцца».

*Зь ліста Васіля Быкава да Ванкарэма Нікіфаровіча. Пераклад з расейкай. «Вестник», № 5 (238), люты 29, 2000. С. 53.*

## ГІСТОРЫЯ

### БЭРЛІН, ЯНКА СУРВІЛЛА

*(Працяг з № 467)*

Не памятаю дакладна, як я да яго даехаў, бо-ж у Людвіґслюст трэба было рабіць перасядку на Эльдэна, а адтуль ужо дабірацца пехатою да вёскі Гляйзін. Ён мяне спаткаць ня мог, бо-ж ня ведаў, што я прыяжджаю.

Прабыў я ў дзядзькі некалькі дзён і пастанавіў ехаць далей. Але куды ехаць? Назад у Бэрлін у ніякім выпадку. Надумалася мне чамусьці паехаць у Пазнань, думаючы, што там будзе спакайней. Да гэтага ведаў, што там быў адзін беларус, прамысловец (меў сваю паперню) Струк. Я меркаваў, што можа ён мне дапаможа ўладзіцца.

Ехаў я акружнай дарогай, праз поўнач (Мэклембург), і аднае раніцы (даты не памятаю) апынуўся ў Пазнані. І тут мне адразу не павязло. Сядзеў я на станцыі пры стале, чакаючы, каб разьвіднела, бо-ж трэба было шукаць нейкага прытулку, і вось тут неўзабаве прысела каля мяне група гітлерюгенд. У вадным мамэнце мне трэба было выйсьці, і я папрасіў маіх суседзяў, даверяючы ім, каб глянулі на мае клумкі. Як я вярнуўся, за некалькі хвілін, не было ні маіх рэчаў, ні гітлераўскіх юнакоў. Прапаў глячок мёду, беларускі кумпяк і ладны кавалак паляндвіцы, а таксама іншыя рэчы. Ня мог сам сабе дараваць сваёй наіўнасьці. Засталося толькі тое, што меў у руках: крыху бяльля і некаторыя прадметы, якія забраў з дому.

Знайсьці прыпынак мне ўдалося хутка. На станцыі было бюро, якое займалася шуканьнем прыстанішча для новапрыбыўшых пасажыраў. Мяне накіравалі ў Аўсштэлюнґ Дорф, комплекс для выстаўкаў. Сэрыя баракаў была пераўтвораная ў гатэльныя пакоі, вельмі чыстыя і з усімі выгадамі. Вось я там і затрымаўся на цэлыя два тыдні. У гэтым часе здаў сабе справу, якая атмасфэра у Пазнані. Мяне ўразіла, што праходзячы па вуліцы, амаль на ўсіх дзьвярах жылых дамоў вісела таблічка з надпісам {Ду бiст еін Дойцэр Дейн Ґрусс Гэйл Гітлер — "Du bist ein Deutscher. Dein Grüss Heil Hitler}. Безумоўна, у гэтых дамах напэўна жылі немцы. Але што мяне найбольш уразіла і нават напалохала, гэта напісы на вагонах трамваяў і на дзьвярах рэстаранаў: {Фур Гунден унд Полен verboten — Für Hunden und Polen verboten}. Жудасна. Мяне апанаваў непакой. Хацелася як найхутчэй уцякаць з такой негуманнай атмасфэры.

За некалькі дзён я спаткаўся з Струкам. Ну што-ж, пагаварылі. Я ў яго нічога не прасіў, і ён мне нічога не прапанаваў. Але ў міжчасе ён паведаміў Беларускае Прадстаўніцтва ў Бэрліне, што я ў Пазнані. Адтуль кіраўнік Прадстаўніцтва Бэрнард Букатка прыслаў тэлеграму, кажучы, каб я неадкладна вяртаўся ў Бэрлін, што ўсё нармальна. У газэтах пра сытуацыю ў Бэрліне ўжо больш не згадвалі, і таму я супакоіўся і падаўся на цягнік. Я фактычна ня меў іншага выхаду, бо ў мяне былі скончыліся харчовыя карткі, якіх я ў Пазнані атрымаць ня мог, бо ня меў сталай прыпіскі, а таксама грошы. І вось наступнай раніцай (даты не памятаю) я ўяжджаў у Бэрлін.

Паўсюдна ня́сло га́рай: смурод ад ӗпаленых рэчаў. Там-сям дымелі яшчэ руі́ны. Вярнуўся я да Янкі Палоннага, і пачалося далейшае нашае супольнае існаваньне. Даведаўся я, што апошнія пару тыдняў былі менш-больш спакойныя, і калі былі алярмы, дык каля нас бомбы ня падалі. З нашых людзей толькі я адзін ня вытрымаў і ўцёк з Бэрліну, усе іншыя былі мацнейшыя за мяне. Але ніхто мне гэтага не дакараў. Усе, напэўна, разумелі, што я ня мог мецъ ніякага ваеннага гарту, бо-ж у ніякай арміі ня быў. Да гэтага мне было толькі васемнаццаць гадоў.

Жыцьцё й праца ўвайшлі, як на тыя часы, у нармальнуэ каляіну. У Камітэце кожны дзень ад раньня да ночы працы было поўна, асабліва з карэспандэнцыяй з сябрамі арганізацыі й з высылкай літаратуры. Пакуль што даволі спакойна, ня гледзячы на частыя алярмы, але — казалі — гэта бамбілі ангельцы, якія высылалі мала самалётаў, і яны кідалі бомбы: сёньня тут, а заўтра там. Часам падала колькі бомбаў і недалёка ад нас, але ўсе ўважалі, што было адносна спакойна.

Калі налёт быў больш значны, і людзі цярпелі. Улады назаўтра або за колькі дзён выдавалі «зондэрцутайлюнг» (Sonderzuteilung) да харчовых карткаў. Гэта было або крыху мяса, або крыху хлеба ці цукру, або паўбутелькі гарэлкі ці пачак цыгарэтаў. Паколькі я тады зусім ня піў, дык за гарэлку можна было дастаць карткі на масла, мяса або што іншае.

У сьнежані месяцы хтосьці прынёс у Камітэт скураных падэшваў. Хацеў іх прадаць. Вось я іх купіў і паслаў майму дзядзьку, Бронюсю Чартовічу, у Беласточчыну, дзе ён быў кіраўніком нейкай чыгуначнай станцыі (мясьцовасьці цяпер не памятаю). Я паслаў гэта, каб зрабіць яму прыемнасьць, бо ведаў, што там такога тавару няма. Але меў неспадзеўку: неўзабаве атрымаў ад дзядзькі пасылку, цяжкаватую, дзе была мука, крупы, каўбасы й бачок. Ну, гэта, безумоўна, моцна мяне ўзрадавала, і мы зь Янкам Палонным падмацавалі крыху картачны рэжым. Я нават раптоўна быў патаўсьцеў. Таксама мне ўдалося купіць набор розных сьвярдзёлкаў, і я іх паслаў дадому, ведаючы, што яны там непатрэбныя, але думаў, што іх там змогуць на штосьці замяніць і такім чынам скарыстаць зь іх. Але яны мяне не паслухалі і, абмяняўшы, таксама прыслалі мне пасылку. Так што праз пэўны час мы аджыўляліся добра.

Аднаго дня Янка Палонны сказаў мне, што ён атрымаў дазвол паехаць на Бацькаўшчыну, каб адведаць сваіх бацькоў і радню, і што вяртацца сюды назад ён ня думае. Ён ткнуў мне папку, у якой знаходзіліся ягоныя вершы, кажучы: «Я маю дзьве копіі. Адну забіраю з сабою, а другую пакідаю Вам (мы былі на Вы). Я ня ведаю што са мною можа стацца. На ўсякі выпадак, калі-б знайшлася змога, выдайце мне вершы». Я яму паабяцаў.

З новым годам (1944-м) ва Ўправе Бэрлінскага Аддзелу Беларускага Камітэту Самапомочы ў Нямеччыне наступілі зьмены: старшынёю ўправы, замест Д-ра Станіслава Грынкевіча стаў Пётра Бакач, а мне абвесьцілі, што я ўваходжу ва Ўправу як сакратар. Гэта была для мяне неспадзеўка. Асабліва спачатку вымагала ад мяне шмат высілкаў, каб апраўдаць новае становішча. Але, як выглядае, спраўляўся...

У пачатку новага году Пётра Бакач пакідаў памяшканьне, якое было вельмі блізка ад Камітэту, на Аль Моабіт Алеэ 81. І ён спытаўся ў мяне, ці я хацеў-бы яго наняць, бо памяшканьне вельмі добрае і ў добрых людзей. Я безумоўна за яго схапіўся й перайшоў туды жыць. Пётра Бакач пераехаў ува Ўсходні Бэрлін, бліжэй свай працы.

Не памятаю, каб вясна 1944-га году была парушаная большымі налётамі. Жыцьцё было даволі спакойнае, і нават можна было выкраіць час і магчымасьць для адпачынку й прыемных экскурсіяў. А ў Бэрліне на гэта былі магчымасьці: вазёры, вялікія й прыгожыя, Міґэльзэ, Ванзэ, а таксама ня вельмі далёка й Потсдам, з цудоўным палацам Сан Сусі й надзвычайна прыгожым паркам. Часам, нядзелямі, калі была прыгожая пагода, выяжджалі на возера групай. У нашую групу ўваходзілі Адольф Буката, сёстры Жукоўскія, Цыбулькін — рэдактар газэты «Беларускі Работнік» — і ягоны супрацоўнік Караленка з жонкаю. Я тады вельмі любіў займацца фатаграфіяй, і ў мяне засталіся зафіксаваныя мамэнты з нашых паездкаў.

Зь Беларусі прыходзілі трывожныя весткі. У нас не было сакрэтам, што немцы прайграюць вайну, хаця на гэтую тэму ніхто не гаварыў, і ўсе перажывалі зьнішчэньні, якія прынесла вайна нашай Бацькаўшчыне і яшчэ прынясе новая савецкая акупацыя. Тымчасам у Менску пачалі арганізоўваць беларускую самаабарону й хутка склікалі Другі Кангрэс. Радаслаў Астроўскі — назначаны прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады. Ніхто ня ведаў, як на гэта ўсё рэагаваць і толькі чакалі, што хутка пачнецца эвакуацыя гэтых новых утварэньняў і структураў на Захад.

Чакаць доўга ня прыйшлося. Хутка паплылі на Захад хвалі ўцекачоў зь Беларусі, сярод якіх сябры Цэнтральнай Рады, інтэлігенцыя й беларускія вайскоўцы. Частка іх дабралася да Бэрліну. Астроўскі дамогся ў немцаў пару жыльлёвых блёкаў, дзе пачаў арганізоўваць дзейнасьць сваей Рады, а таксама дзе пасяліліся людзі й вайскоўцы.

З гэтага часу Камітэт стаўся грамадзкім цэнтрам для ўсіх. У Камітэце ўсе спатыкаліся. Гэта як-бы была «беларуская хатка». Жыцьцё ў Камітэце стала больш інтэнсыўным. Шмат наведвальнікаў, розныя праблемы. Для нас прыходзілі людзі поўнасьцяй разгубленыя, тым больш, што БЦР нічым не магла ім памагчы.

Мусіць, заўважу такі мамэнт: аднаго дня зьявіўся ў Камітэце сам Астроўскі з валізачкай і зьвярнуўся да мяне з просьбай, каб Камітэт зрабіў акт наяўнасьці грошай у ягонай валізцы. З Букатам пачалі мы лічыць тыя грошы, а гэты было лёгка, бо яны былі ў блёках, проста з друкарні — па некалькі тысяч. Усяго разам было ў той валізе шэсьцьсот зь нечым тысяч усходніх маркаў. Мы зрабілі акт, ён падзякаваў і паехаў. Больш я зь ім не спатыкаўся ні ў Бэрліне, ні пазьней.

Другі мамэнт, пра які трэба ўспомніць, гэта спроба Юркі Сабалеўскага, старшыні Самапомочы, якая існавала ў Беларусі, неяк аб'яднаць яе з нашым Камітэтам. Фактычна Самапомач ня мела што рабіць вонках Беларусі, але Сабалеўскі арганізаваў бюро ў Бэрліне, дзе сядзелі за сталамі каля дзясятка працаўнікоў. Што яны рабілі, ня ведаю. Памятаю толькі, што гэта была даволі абшырная заля, кругом віселі надпісы «Курыць забаронена — штраф 5 марак». Я тады курыў і, не зьвярнуўшы ўвагі на надпісы, закурыў. Ён зажадаў ад мяне 5 марак. Я яму заплаціў і прадаўжаў курыць. Ён мне зноў зьвярнуў увагу, што курыць забаронена, але я яму адказаў, што я ўжо заплаціў і цяпер маю права скончыць маю цыгарэту.

Няцяжка нам было яму давесьці, што ўсякае аб'яднаньне між ягонай інстытуцыяй і нашай арганізацыяй ёсьць немагчымае пад кожным поглядам. І ён гэта зразумеў.

Яшчэ адзін мамэнт, які хачу ўспомніць. Незадоўга пасьля прыезду ў Бэрлін артыстычнай групы *Жыве Беларусь* я зь імі ўсімі пазнаёміўся, бо яны часта наведвалі Камітэт. Іх былі пасялілі ў нейкім будынку, ну й немцы напэўна заўважылі, што ёсьць маладыя людзі з Усходу, якія не працуюць. Вось-жа аднаго дня прыехалі грузавікі й пачалі ладаваць іх, каб завезьці ў лягер остарбайтэраў. Звоніць да мяне — цяпер добра ня памятаю, ці Барбара Вержбаловіч ці яе сяброўка з плачам: «Спадар Сурвілла, нас забіраюць у лягер, ратуйце!» Я ўскочыў у трамвай, хутка дабраўся туды, прадставіўся галоўнаму, што праводзіў апэрацыю, і кажу яму, што гэтыя людзі належаць да Камітэту, калі ласка, пакіньце іх. Ён сказаў «добра», зьнялі тое, што было ўжо заладаванае, і паехалі. І больш іх не турбавалі. Я й сёньня дзіўлюся, як мне гэта ўдалося.

У грамадзе новапрыбылых, мне было дадзена пазнаць і запрыязьніцца з цікавымі людзьмі. Тут, мімаходам, успомню толькі некаторых. Сярод іх Яўген Калубовіч, які ў тыя дні стараўся закончыць рэдакцыю пратаколу Другога Кангрэсу. Гэта быў малады, вельмі адукаваны і інтэлігентны чалавек. Пазьней меў нагоду спатыкацца зь ім на нацыянальна-грамадзкіх форумах.

Мне было надзвычай прыемна спаткацца й запрыязьніцца з Язэпам Найдзюкам, аўтарам кнігі БЕЛАРУСЬ УЧОРА І СЁНЬНЯ, і ягоным братам Чаславам. Язэп Найдзюк часта прыходзіў да мяне. Ён моцна перажываў, што ён адзін вырваўся на Захад, а сям'я засталася дома. Ён гэта так моцна перажываў, што аднаго дня сказаў: «Больш не магу. Пайду пехатою». І пайшоў. Шмат пазьней былі весткі, што ён вярнуўся да сваёй сям'і. У Бэрліне мы некалькі разоў езьдзілі ў Потсдам зьведаць той прыгожы куточак. Ёсьць здымкі з гэтых экскурсіяў з братамі Найдзюкамі. Між іншым, тут заўважу, што першы раз спаткаў я Язэпа Найдзюка ў Вільні, на Завальнай 1, здаецца, у 1937-м годзе, як мне было 12 гадоў.

На здымках у Потсдаме ёсьць яшчэ два хлапцы. Гэта мае сябры Вярбіцкі й Шульжыцкі. Нажаль, ня памятаю іхных імёнаў, бо кантакт зь імі абарваўся

*(Працяг на бач. 8)*

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# АБ БЕЛАРУСАХ ВА ЎСПАМІНАХ ГЕН. АНДЭРСА

Паведамленьне ў «Беларусе» (465, сьнежань 1999) аб выданьні кнігі Франца Кушаля прыпомніла мне кніжку ген. Андэрса пад назваю «Без апошняга разьдзелу». Вось што піша ён пра капітана (на той час) Ф. Кушаля: «Даўжэйшы час сядзеў са мною ў адной кельлі паляк, капітан Кушаль. Як ваеннапалонны быў ён дауней у Старабельску, адкуль у сакавіку 1940 г. перавязьлі яго да лягеру Паўлішчаў Бор. Адсюль — быццам-бы звальняючы — у турму на Лубянцы. Ад яго першага я даведаўся, што ў трох лягерох — Казельску, Старабельску, Асташкаве — сядзіць больш за 11000 афіцэраў. Казаў мне таксама, што ад сакавіка 1940 г. пачалі малымі групамі вывозіць афіцэраў з Старабельску. Невялікую колькасьць спаткаў у лягеры Паўлішчаў Бор. Распавядаў мне аб сотнях маіх калегаў і прыяцеляў. Спадзяваўся ён, што могуць яго зволньніць як беларуса даспэцыяльных работ на месцы. (Цяпер дазнаўся, што быў ён у беларускіх аддзелах, якія ваявалі супраць бальшавікоў)».

Трэба сказаць, што слова «паляк» у тэксьце ген. Андэрса ня трэба браць літаральна. Палякі часта называюць сваіх грамадзянаў гэтак. Ды й сам ген. Андэрс далей называе Кушаля беларусам.

Варта таксама прыгадаць, што ген. Андэрс у гэтай кніжцы ўспамінае, што падчас перамоваў у Крамлі 3 сьнежня 1943 г. ён сказаў Сталіну, што беларусы «былі добрымі жаўнерамі падчас вайны ў 1939 годзе».

Хацеў-бы думаць, што гэтая інфармацыя будзе цікавай і карыснай для беларускіх гісторыкаў.

**М. Швэдзюк, Англія**



## З БОГАМ — ПА-БЕЛАРУСКУ

# НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

Сьвята Ўваскрашэньня мацуе надзею і ўпэўнівае, што ў прышласьці мы здабудзем неасягнутае раней. Тое неасягнутае, як малое зерне велічнага дрэва, ужо ляжыць у зямельцы, набрыньвае жыцьцядайнымі сокамі, у чаканьні на спаўненьне часу.

*Ён уваскрос,*
*Ён — дзесь між намі,*
*Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,*
*у сіняй смузе над палямі*
*вісіць вясна...*
*Ён уваскрос.*
*Ускрос,*
*і зноў па Беларусі*
*перад сабой ідзе Хрыстос...*
*Здымае з душ настылых вусьціш,*
*багаслаўляе соладзь кроз,*
*сяліб раскіданых прысады,*
*муры нязьлічаных вязьніц*
*і тых,*
*што пагублялі радасьць*
*па кроплі кропля й дзень па дні...*
*Ідзе Хрыстос... Над Ім дугою*
*ўстае густы блакіт нябёс,*
*а ногі ў ранах незагойных*
*кладуць сьляды на шэрань рос...*
*Дык прыпадзем*
*і вусны спалім*
*на тых сьлядох, што Бог-Хрыстос*
*губляе, моўчкі ідучы ў далечь,*
*бо Ён ускрос,*
*Ён уваскрос!*
*Няхай над родным папялішчам*
*усьцяж галосіць нема лёс,*
*няхай крывавяць нас і нішчаць —*
*ускрэсьне Край,*
*бо й Ён ускрос!*
*Мацней за сьмерць,*
*за ўсё,*
*каханьне*
*зямлі, дзе ад дзяцінства ўзрос...*
*Устань-жа, ўстань,*
*ускрэсьні сяньня*
*мой Край, як уваскрос Хрыстос!*

Верш быў напісаны ў 1953 г., калі паэтка ўжо амаль дзесяць гадоў жыла на выгнаньні, а на Беларусі яшчэ лютавала сталіншчына. Ад Купалы й Палуяна нашыя паэты бачаць у сьвяце Ўваскрашэньня Хрыста вобраз роднае зямлі. Гэты верш тэматычна блізкі зь іншым — «Верце», напісаным Н. Арсеньневай у той жа час, што й першы.

*Вам горка, што няма таго,*
*чаго мы столькі год чакаем,*
*што сьцежка нашая вузкая*
*усьцяж ня выб'еццa з лагоў?*
*Што заплылі вадой разоры*
*парослых лебядою ніў,*
*што Бог судзіў нам несьці сны*
*аб родным краі аж за моры?*
*..........................................*
*Чакайце-ж,*
*верце,*
*прыйдзе Ён,*
*Вялікі Дзень і ў нашу хату.*
*Пашле і нам нарэшце сьвята*
*дзіўны, нязнаны Божы Кон!*

Як пачаткам уваскрашэньня была сьмерць, так пачаткам усяго неардынарна добрага, што надарaецца асягнуць нам, ёсьць шчыра-ахвярны высілак, у нейкім сэнсе — сьмерць нашых прызвычаеньняў. Ці пабачым мы Беларусь такой, пра якую марым, калі ня знойдзем сьмеласьці зрабіць для яе крыху больш, чым рабілі звычайна?

# КАМПАКТНЫ ДЫСК З ДЖАЗАВАЙ МУЗЫКАЙ ЗЬМІЦЕРА ЯЎТУХОВІЧА

***Інтэрвію Янкі Запрудніка з кампазытарам Зьм. Яўтуховічам***

Кампазытара Зьміцера Яўтуховіча на Беларусі ведаюць найбольш па шматлікіх песьнях для дзяцей і дарослых, асабліва па дзьвюх: па калыханцы, якою канчаецца штовечару перадача Беларускага радыё для дзяцей «Вячэрняя казка», ды па рытмічнай «Даставай, Язэп, гармонік» (словы Леаніда Пранчака).

Ад 1993 году сям'я Яўтуховічаў жыве ў Саўт-Рывэры, дзе жонка Зьміцера, Іна, сымпатычная маладзіца з вышэйшай музычнай адукацыяй, вядзе хор у саўтрывэрскай беларускай праваслаўнай царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

Зьміцера можна часта пабачыць і пачуць у Нью-Ёрку й ваколіцах на розных беларускіх урачыстасьцях і таварыскіх сустрэчах. Людзям падабаецца ягоная музыка й вясёла-жартаўлівы тон вядзеньня канцэрту. Зьміцер — чалавек творча актыўны й працавіты. Цяпер ён шмат працы ўкладае ў рыхтаваньне кампактнага дыску лёгкаджазавай музыкі.

**Пытаньне:** *Зьмітрок, што новага ў тваім творчым жыцьці?*

**Адказ:** Літаральна дзён дзесяць таму Леанід Барткевіч, адзін зь першых удзельнікаў ансамблю «Песьняры», павёз у Менск у новай апрацоўцы на сучасны лад (танцавальны) маю песьню «Даставай, Язэп, гармонік", якую ён зьбіраецца запісаць з ансамблем «Песьняры». Ансамбль рыхтуецца цяпер да свайго 30-годзьдзя, і Лёня будзе выступаць з маёй песьняй у Палацы спорту ў Менску. Трымаю таксама цесную сувязь з Анатолем Ярмоленкам і ансамблем «Сябры».

**П:** *Ты займаешся творчай працай ад часу твайго прыезду ў Амэрыку?*

**А:** На жаль, Амэрыка забрала пяць гадоў з майго творчага жыцьця, аж пакуль не пайшоў у entertainment business. Цяпер я працую толькі як музыка. Я рашыў сам сабе даказаць, што ў Амэрыцы ёсьць магчымасьць зарабляць на жыцьцё толькі музыкай.

**П:** *Ты апрацоўваеш цяпер свой кампактны дыск?*

**А:** Так, я працую над джазавым альбомам. У маёй музыцы два напрамкі: лёгкая музыка для фартэпіяна ў суправаджэньні аркестры й так званы cool jazz, такога багатага мяккага гучаньня.

**П:** *Кампазыцыі новыя?*

**А:** Яны былі напісаныя на працягу апошніх пятнаццаці гадоў, бальшыня напісана ў Беларусі. Усіх у мяне больш за сорак, зь якіх я выбраў шаснаццаць — усё найлепшае, што я напісаў у галіне джазу.

**П:** *Ты выдаеш гэта сваім коштам?*

**А:** Безумоўна.

**П:** *Гэта-ж дарагая рэч, яна каштуе...*

**А:** Яна каштуе тысячы даляраў, бо я апрацоўваю музыку ў прафэсійных студыях (адна зь якіх належыць гітарысту Аляксандру Герасімовічу), не карыстаюся ніякімі дамашнімі студыямі. Прычым у мяне граюць жывыя музыкі — трубач, саксафаніст, гітарыст і інш. — усе са стажам, з выдатных калектываў.

**П:** *Музыка — рэч абстрактная, але часамі яна зьвязана сваімі каранямі з краем паходжаньня. Ці ў тваёй музыцы будзе нешта айчыннае, роднае — тое, што неадлучнае ад цябе самога?*

**А:** Увогуле джазавая музыка — гэта міжнародная музыка. Безумоўна, радзіма джазу — гэта Амэрыка, хоць ёсьць у джазе карані афрыканскія, ёсьць і лаціна-амэрыканскія, ёсьць і эўрапейскія. Я стараюся наблізіць гучаньне таго, што я запісваю, да міжнародных стандартаў (а стандарты гэтыя цяпер вельмі высокія), і спадзяюся, што музыка мая годная таго, каб прагучэць на такой ведамай сваім джазавым рэпэртуарам радыястанцыі, як 101.9. А што да нацыянальнай тэматыкі, дык, напрыклад, у некаторых кампазыцыях для фартэпіяна я ўжываю тыпова славянскія абароты, тыпова, калі хочаце, беларускія абароты. І слухач пачуе гэта, асабліва ў апошняй кампазыцыі «Пяшчотная пачуцьці Рамэа». У ёй я ўжываю нешта накшталт беларускіх цымбалаў.

**П:** *На тваім дыску будзе 16 кампазыцыяў, кожная зь іх прысьвечана нейкай асобе — тут і твая жонка Іна, дачка Валерыя, і Ігар Лучанок, і Скорыкаў, і Ярмоленка...*

**А:** Так. Мне хацелася прысьвяціць кожнаму зь іх свой твор. Прыкладам, кампазыцыя «Парк на ўзьбярэжжы» — яна была створана ў 1986 годзе, калі я са сваім найлепшым сябрам Сяргеем Брыксам, выдатным барабаншчыкам, ехаў у электрычцы з Маладэчна ў Менск і напісаў гэтую мэлёдыю. Важную ролю ў маім жыцьці адыграў Ігар Лучанок, бо ён быў старшынём саюзу кампазытараў, і я прысьвяціў яму адзін са сваіх твораў.

**П:** *А ў якіх абставінах нарадзілася кампазыцыя «Салодкая пастараль», якую ты прысьвяціў сваім бацькам, Тацьцяне і Андрэю?*

**А:** Гэта адна з самых раньніх маіх кампазыцыяў, напісаная, калі я быў студэнтам кансэрваторыі. Яна мне нагадвае той гарадок, у якім жывуць мае бацькі — Петрыкаў Гомельскае вобласьці і рэчку Прыпяць, дзе я часта лавіў рыбу, загараў на сонцы.

**П:** *Усе шаснаццаць твораў на кружэлцы займаюць колькі часу?*

**А:** 73 хвіліны.

**П:** *А загаловак твайго дыску будзе які?*

**А:** «Таямніца цёмнага акіяну».

**П:** *Адкуль гэта?*

**А:** Я вельмі люблю акіян і мора. Калі я ўпершыню быў у Крыме і ўбачыў Чорнае мора — мне тады было 19 год, — яно на мяне зрабіла надзвычайна моцнае ўражаньне. Калі-б я ня ўбачыў мора, дык мне здаецца, што не пісаў-бы й музыкі. Мора ў маім жыцьці, у тым ліку й беларускае «мора» Нарач, заўсёды адыгрывала вялікую ролю.

**П:** *Калі твой дыск, ты думаеш, будзе на рынку?*

**А:** Недзе напрыканцы вясны, я спадзяюся.

## ПАМЯЦІ ВІКТАРА І ІРЭНЫ КАСЬЦЮКЕВІЧАЎ

«Няма большае любові, як аддаць жыцьцё за другі свае» казаў Ісус Хрыстос. Віктар і Ірэна загінулі, утапіліся ў рацэ, ратуючы іншых. Сьветлай памяці спадарства Віктар і Ірэна Касьцюкевічы жылі ў канадыйскім Слуцку, што каля Пэры Соўнд, над ракой. Там надта прыгожа, а як аказалася, і нябясьпечна, бо ўсякая рэчка вясной робіцца гнеўнай і пагрозьлівай.

Недзе перад самым 25 Сакавіком Ірэна ўгледзела іхняга сабаку, прыяцеля дому, у небясьпецы на лёдзе ракі. Кінулася яго ратаваць, лёд заламаўся, і яна звалілася ў ваду шпаркае ў сакавіку ракі. З жахам ускрыкнула аб дапамозе. Віктар, яе муж, кінуўся ў гнеўную раку ратаваць жонку. Не здолеў уратаваць і сам разам зь ёю загінуў.

Дарэмна сябры чакалі іх на сьвяткаваньні 25 Сакавіка, у нядзелю 26-га, у Таронта. Віктар і Ірэна разам, як за жыцьця на зямлі, рука ў руку стаялі ўжо перад Сьвятлом Аблічча Божага. Ля іх мабыць была й праменная Маці Божая якой Ірэна збудавала на скале перад іхным домам «Шрайн». Вакол выявы Маці Божае, усё лета квітнелі пасаджаныя руплівай рукой Ірэны краскі. І штораніцы Ірэна, як салавейка, пяяла Ёй гімны:

*Авэ, авэ, авэ, Марыя,*
*вітай, вітай, вітай, Марыя.*
*Зірнула Ірэна — за зоры сьвятлей,*
*праменная Дзева стаіць на скале,*

*Авэ, авэ, авэ, Марыя,*
*вітай, вітай, вітай, Марыя.*
*Кашуля, як сьнег той, як неба паяс,*
*аблічча, як вёсны ціхія ў нас,*

*Авэ, авэ, авэ, Марыя,*
*вітай, вітай, вітай, Марыя.*

Так я бачу Вас сяньня, Дарагія Сябры. І думаю сабе, мо й добра, што Бог забраў Вас абоіх разам, бо надта цяжка заставацца на сьвеце аднаму без другога.

Ірэна была бясспрэчнай мастачкай. Ейнае мастацтва выяўлялася ў прыгажосьці створанага вакол іхняга дому кветніка. Яна любіла прыроду, таму-ж і ратавала сабачку, і прырода любіла яе. Кветкі слухаліся Ірэну, расьлі й квітнелі Ёй прыгажэй, як каму-колечы. Усё, што Ірэна рабіла, было зроблена прыгожа. Была яна сяброўскай і гатовай памагаць іншаму.

Спадарства Касьцюкевічы былі сяброўскімі й надта гасьціннымі. Калі яны жылі ў Таронта, на сьвяткаваньні 25 Сакавіка зьяжджаліся ў Таронта беларусы ня толькі з Канады, а із ЗША, Дэтройту, Рочэстару. Тады была нагода пасьля сьвяткаваньня на грамадзкія зборкі з далейшымі ад Таронта сябрамі. І зборкі такія адбываліся заўсёды ў прывеглівай атмасфэры гасьціннага дому Касьцюкевічаў. У заўсёды вясёлай Ірэны ўраз на стале зьяўлялася гарачая, духмяная вячэра, тушонае мяса й рассыпчастая, пасыпаная зялёным укропам, бульбачка. У Віктара прыняць гасьцей была й чарка. А госьці за сталом дарылі гаспадарoў сваімі жартамі й весялосьцяй. І ўсім бывала добра ў Касьцюкевічаў.

Віктар быў дзейным сябрам Згуртаваньня Беларусаў Канады. Не адзін раз быў Старшынём яго. Быў спакойным, разважлівым і ўмеў залагоджваць непаразуменьні й іншых. Умеў добра праводзіць сходы. Раз у часе 45-га Агульнага Сходу ЗБК прыйшоў запрошаны на сход прадстаўнік ад Фэдэральнага аддзелу Шматкультуралізму. Кіраўнік Сходу, Віктар Касьцюкевіч, ураз пераклаў зь беларускае на ангельскую мову, і з годнасьцю прыгожа прывітаў Гасьця.

Калі Касьцюкевічы пасяліліся ў Слуцку, Віктар стаў незаменным нагляднікам за грамадзкім там домам. Паміж Таронтам і Слуцкам ляжыць Канадыйская прошча — Martyrs' Shrine in Midland, Ontario — дзе ад 1988 году й мы маем свой Беларускі Шрайн — беларускае сьвятое мейсца — зь Беларускім памятным Крыжам тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі ды помнікам Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі. Кожны год да беларускага сьвятога мейсца ў прошчы ў Мідлянд адбываюцца беларускія паломніцтвы, у якіх амаль штогод бралі ўдзел спадарства Касьцюкевічы. Пышныя букеты кветак з Ірэнінага гароду аддавалі пашану памяці Пакутнікам Беларусі, а прыгатаваныя ёю прысмакі цешылі паломнікаў у часе пікніку-полудня. Каля Беларускага Крыжа растуць, яшчэ маленькія, хвойкі, якія мы зь Ірэнай вырвалі ў лесе Слуцку й пасадзілі ля Беларускага Крыжу. Хвойкі будуць расьці, мужнець й шумам сваіх галінак будуць расказваць пра беларускі Слуцак і Вас, Дарагія Ірэна й Віктар Касьцюкевічы.

Скрозь і заўсёды Вы былі сьветлым і карысным зьявішчам беларускага жыцьця ў Канадзе. Ды ня толькі у Канадзе — за мяжой. Віктар ужо да прыезду ў Канаду быў у Англіі сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Пасьля ўжо тут браў удзел і вазіў нас на Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў ЗША. Уклад Вашай працы й душы ў жыцьцё беларускае, як зерні кінутыя ў ніву, давалі й будуць даваць плёны.

Мы будзем Вас памінаць у малітвах і ў БАПЦ ў Таронта, і ў часе Паломніцтваў да Беларускага памятнага комплексу ў Мідлянд, Онтарыё.

Вечны Вам Супакой й Вечная Памяць!

Шчырыя спачуваньні Вам, Дарагія Тарэса, Леанард і Вашыя нашчадкі. Вашая балючая страта ёсьць ня толькі Вашай, а таксама й нашай.

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## БЭРЛІН, ЯНКА СУРВІЛЛА

*(Праця з бач. 6)*

пасьля іхняй эміграцыі ў Задзіночныя Штаты дзесьці ў пачатку пяцідзясятых гадоў. Шульжыцкага спаткаў зноў толькі ў 1988-м годзе, на сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Торонто.

Асабліва хацеў-бы ўспомніць пра маё знаёмства з Доктарам Баляславам Грабінскім зь Вільні. Ня ведаю, у якіх абставінах мы спаткаліся, але нашая прыязьнь, ня гледзячы на розьніцу ў веку, засталася да канца ягонага жыцьця. Ён таксама вырваўся на Захад сам, без сям'і, бо жонка не хацела выяжджаць. Я яго лічыў як сваім бацькам на чужыне, і ён быў для мяне вялікай маральнай падтрымкай. Пазьней ужо, калі я быў у Мадрыдзе, а ён у Задзіночаных Штатах, дзесьці ў 60-ыя гады, ён два разы прыяжджаў, каб мяне адведаць. Я яму быў моцна ўдзячны, што ён мне быў даў у карыстаньне свой фатаграфічны апарат, дзякуючы чаму цяпер існуюць некаторыя фотадакумэнты з тагачаснага беларускага жыцьця ў Бэрліне, а пасьля ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце.

Яшчэ адно знаёмства, якое я вельмі моцна цаніў гэта з Кастусём Езавітавым. У 1945-м годзе, хутка перад апэрацыяй, якую яму меўся рабіць Др. Шчорс (не памятаю, каторы), ён прыходзіў да мяне, каб абгаварыць і вырашыць некаторыя пытаньні. Ён гаварыў, што ня ведае, чым скончыцца апэрацыя, а таму, на ўсякі выпадак, прасіў мяне, каб я пераняў некаторыя справы, якія належалі да сфэры ягонай грамадзкай адказнасьці. Гэта было тады, калі ў Бэрліне зь Беларусаў ужо амаль ніхто не застаўся (усе павыяжджалі далей на Захад). Ён перадаў мне адначасна копію дакладаў, якія чыталіся на сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага чыну (сярод якіх і ягоны даклад), што адзначаліся восеньню 1944-га году. Гэтае сьвяткаваньне было арганізаванае ім самым, у рамках дзейнасьці БЦР. Я моцна ганарыўся гэтай візытай і даверам Езавітава да мяне. Мне-ж тады было толькі 20 год, а ён ўжо быў генэралам.

Тады я пазнаёміўся таксама з маладымі беларускімі паэтамі Алесем Салаўём, Масеем Сяднёвым, Рыгорам Крушынай і іншымі. Яшчэ й цяпер мне стаіць перад вачыма «змаганьне» Сяднёва й Салаўя за сэрца Зіны. Але канчаткова Салавей, як выглядае, перамог, бо пасьля вайны апынуўся зь Зінаю ў Аўстраліі.

## АХВЯРАВАНЬНІ

### НА БІНІМ

| | |
|---|---|
| Праф. З. Гімпелевіч | $100 |
| Л. Дубовік у памяць мужа Аўгена | 100 |
| З. Смаршчок | 100 |
| К. Акула | 50 |

### НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУСЬ» *($)*

| | |
|---|---|
| Кастусь Акула | $30 |
| Раіса Жук-Грышкевіч (замік кветак на магілу Ірэны й Віктара Касьцюкевічаў) | 20 |
| Б. Рагуля у памяць Касьцюкевічаў | 100 |
| Я. Баран | 67 |
| С. Бурдзь | 90 |
| У. Гуцько | 40 |
| М. Такушевіч | 40 |
| К. Шыкалюк | 34 |
| М. Радчанка | 30 |
| М. Абрамчык | 30 |

### З АЎСТРАЛІІ *(аўстр. даляры)*

| | |
|---|---|
| Г. Шайпак | $50 |
| Ж. Сідлярэвіч | 50 |
| З. Кадняк | 45 |
| Я. Яшчанка | 50 |
| Т. Ляшчук | 80 |
| І. Барысевіч | 35 |
| П. Гуз | 50 |
| В. Каралюк | 45 |

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

### АЎГЕН ДУБОВІК

нарадзіўся 4 сакавіка 1944 году ў Вялейцы.

Памёр дня 13 студзеня 2000 году пасьля кароткай а цяжкай хваробы.

Пахаваны на магілках у Вайтплейнс, дзе і пахаваныя яго бацькі.

У смутку пакінуў жонку Ларысу Кажан Дубовік, дарослых сыноў Эрыка і Алекса і сястру Альжбету Цяппа.

**В.К.**

## АД «ХАТКІ» АЖ ДА... «ДОМУ»

Чытаю ў нашай нюёркскай газэце, першым нумары яе за студзень, у годзе двухтысячным, і — прызнаюся — цешуся, што грамада нашых найнавейшых суродзічаў пастанавіла «аб патрэбе свайго будынку ў Мангатэне». «Каб было ня горш як ва ўкраінцаў», прынамсі.

Беларускі дом ды на Мангатэне? Адважны народ, відаць, з нашых суродзічаў на гэту слаўную амэрыканскую зямельку зьявіўся. Пажамы, Божа, ягонай энэргічнай пазытыўнасьці.

Даўно-даўненька, дзесьці ў другой дзясятцы дваццатага стагодзьдзя, былі ў Менску актыўныя «беларускія хаткі». Адна ці больш... давалі прытулак ня толькі ваенным «бежанцам», але й нацыянальнаму адраджэньню, зародкам дзяржаўнае незалежнасьці. Усім з нас ведамая віленская «хатка» выдатнай і, быццам пчолка, руплівай у нацыянальна-асьветнай працы беларускай Зоські Верас. У гэным часе «хаткі» натхнялі яшчэ скромныя беларускія нацыянальныя сілы, былі цалкам неабходныя. Пра іх пісалі, яны ўвайшлі ў кантэкст нашай дзяржаўнай гісторыі.

Верце ці ня верце, але-ж пасьля другой сусьветнай (а не «айчыннай») вайны знайшліся былі ў нас людзі, што былі плянавалі «беларускую хатку» ведаеце дзе? У Ню Ёрку. Я не прадаю вам бруклінскі мост, называць такіх вось ініцыятараў беларускага арганізаванага жыцьця на гэтым баку акіяну зь іхнай «беларускай хаткай» ня буду.

Чую, што пастанавілі на апошнім Зьезьдзе Беларусаў Паўночнай Амэрыкі зьбіраць сродкі на набыцьцё дому. У Мангатэне. Няхай сабе. Заглянем на Брайтан Біч. Там-жа поўна нашых, каторыя могуць шмат чаго параіць. Магчыма, што ў кішэню нашу, тымчасам пустую, палезьці асьмеляцца некаторыя «кансультанты».

Так ці інакш, калі са свайго брата не зьбярэш даволі грошай, прыйдзецца ў пазыкі лезьці, у крэдыт грошы браць ад банкаў, а, вядома-ж, не loan sharks.

Сплочваць трэба будзе тыя крэдыты з таго-ж набытага дому ці іншага будынку. І тут, магчыма, варта паклікаць на помач, каб стварыць крыніцу даходу ў Мангатэне, нашу практыку (пад натхненьнем «роднай партыі») з бэсэсэрыі.

Памятаеце камбінаты бытавага абслугоўваньня? Яны-ж некалі як грыбы пасьля дажджу расьлі, калі бальшыня з нас падрастала ў Беларусі. Шкада, што разявакі пры ўладзе не змаглі дастаўляць даволі розных запчастак. Ага! Таму адно піўнушкі буйнелі, а іншыя зусім нікчэмна гэнае бытавае абслугоўваньне праводзілі.

У Гаспадарствах Злучаных Амэрыканскіх запчастак будзе ўволю. Дык-жа тут маецца й свой амэрыканскі інтэрнацыянальны й нацыянальны быт, які трэба абслугоўваць. Таму-ж і камбінатам увесь гэты гешэфт-бізьнес можна называць. Яй-богу!

Крэдыт нам дадуць, калі павядзём гаспадарку па-людзку, або, па-камэрцыйнаму. Згода? Не хвалюйцеся! Памятайце тую народную мудрасьць, нашу прыватную і агульна-беларускую: яшчэ ніколі так не было, каб ніяк не было. Заўсёды неяк будзе.

Калі й правалімся, дык заўсёды неяк будзе!

А цяпер першая мая прапанова: ганіце ў агульную касу чым больш валюты, каб купіць ці пабудаваць беларускі дом у Мангатэне. Хто супраць?

**К. Акула**